# ДОБРЫ ВЕЧАР
Добрый вечер
МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
ЛІПЕНЬ
26
СЕРАДА
№ 110/ 1039
Цана
400 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

**ПАСТАНОВА**

**КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**НУМАР 390**

### АБ ПЕРАНОСЕ РАБОЧАГА ДНЯ

**Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЕ:**
**перанесці рабочы дзень пятніцу 28 ліпеня на суботу 5 жніўня 1995 г.**

**Прэм'ер–міністр**
**Рэспублікі Беларусь М.Чыгір.**
**24 ліпеня 1995 г.**
**г.Мінск.**

### У ПАМЯЦЬ ЗАГІНУЎШЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ

Па просьбе МУС Рэспублікі Беларусь Мінгарвыканкам выдзеліў месца ў сталіцы для ўзвядзення помніка супрацоўнікам міліцыі, якія загінулі пры выкананні службовага абавязку. Цяпер над яго праектам працуюць некалькі творчых груп. Аднак сродкаў на яго ўзвядзенне ў МУС не хапае.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў і Рэспубліканскі савет ветэранаў ОУС прынялі зварот да грамадзян, прадпрыемстваў, арганізацый і камерцыйных структур, у якім змяшчаецца просьба аказаць пасільную дапамогу па збору сродкаў на ўзвядзенне гэтага помніка.

Грашовыя сродкі можна пералічваць на спецыяльны рахунак фінансава-планавага ўпраўлення МУС рэспублікі нумар 701201 у Галоўным упраўленні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь па гораду Мінску і Мінскай вобласці. Код — 153001 МФО-007.

### ДАЗВОЛУ НА ШЭСЦЕ НЕ АТРЫМАЛІ

Мінскі гарвыканкам адхіліў просьбу групы грамадзян, жыхароў сталіцы Беларусі, аб дазволе правесці 27 ліпеня, у Дзень Незалежнасці, шэсце па галоўным праспекце горада. Аб гэтым журналістам было паведамлена на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў штаб-кватэры Беларускага народнага фронту 24 ліпеня. Па словах Віктара Івашкевіча — аднаго з тых, хто звяртаўся да гарадскіх улад, — рашэнне матывавана тым, што падобная акцыя не прадугледжана планам правядзення ўрачыстасцей з нагоды дзяржаўнага свята. Гарадскія ўлады таксама папярэдзілі, што ў выпадку парушэння забароны да ўдзельнікаў шэсця будуць прыменены ўсе захады, каб спыніць яго. Акрамя таго, супрацоўнікі органаў унутраных спраў будуць канфіскоўваць нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі, калі яны ў каго-небудзь будуць, казаў В.Івашкевіч. «Закона, які б забараняў выкарыстанне нацыянальнай сімволікі, не існуе, — заявіў лідэр БНФ Зянон Пазняк, — больш таго, юрыдычна дзяржаўнымі сімваламі Беларусі дагэтуль з'яўляюцца герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг, бо змена сімвалаў, якая адбылася ў рэспубліцы ў выніку прайшоўшага рэферэндуму, не замацавана заканадаўча Вярхоўным Саветам Беларусі, як таго патрабуюць Канстытуцыя і Закон аб рэферэндуме».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### НАМ ЁСЦЬ ЧЫМ ЗДЗІВІЦЬ ЕЎРОПУ

Не так часта выпадае магчымасць пачуць у адным канцэрце лепшых маладых музыкантаў і вакалістаў рэспублікі. Але менавіта такую сустрэчу падарылі мінчанам Беларуская акадэмія музыкі.

Дзесяць лепшых выканаўцаў з Беларусі, Расіі, Польшчы, Венгрыі, Латвіі, Чэхіі і Украіны былі ўдзельнікамі прэстыжнага канцэрта ў Жэневе, намечанага кампаніяй на 2 кастрычніка гэтага года. Ва ўсіх астатніх краінах прэтэндэнты ўжо адабраны, міжнароднаму журы засталося вызначыцца з нашай рэспублікай. Зрабіць гэта, напэўна, будзе няпроста. У творчым паядынку сустрэнуцца музыканты, якія, хоць і маладыя, але адчулі подых славы. Гэта піяністы Юрый Бліноў, Дзмітрый Марозаў, Сяргей Смірноў, Ганна Шыбаева, флейтыстка Дар'я Бельцюкова, трубач Андрэй Кавалінскі, віяланчэліст Мікаэл Самсонаў і іншыя — усяго 20 чалавек. Яны падрыхтавалі спецыяльныя праграмы і вельмі сур'ёзна рыхтаваліся да конкурсу. Застаецца чакаць вынікаў.

**ВІКТАР КУКЛОЎ.**

### ЗЯНОН ПАЗНЯК УЗЯЎ ШЛЮБ З ГАЛІНАЙ ВАШЧАНКА

У Магілёўскім касцёле Святога Станіслава 23 ліпеня адбылося вянчанне лідэра Беларускага народнага фронту Зянона Пазняка і актывісткі гэтага руху Галіны Вашчанка. Зянон Пазняк, як вядома, нядаўна адзначыў 50-гадовы юбілей.

Галіна Вашчанка — педагог па адукацыі, дэпутат Мінскага гарсавета, член камісіі па выхаванні і адукацыі. Выхоўвае дачку ад першага шлюбу.

**Уладзімір ГЛОД.**

### УПРАЗДНЕНЫ ЖИЛИЩНЫЕ ЛЬГОТЫ

Кабинет Министров своим Постановлением «О признании утратившими силу некоторых решений правительства Республики Беларусь» упразднил жилищные льготы отдельным категориям граждан.

Более шестидесяти лет в отношении советских научных работников, изобретателей, писателей, композиторов, художников и скульпторов действовали соответствующие постановления ЦИК и Совнаркома БССР об улучшении жилищных условий.

Отныне лишаются права пользования дополнительной жилплощадью работники кино, отставные военные в генеральском чине и члены Союза журналистов Беларуси.

Жилищные льготы «приказали долго жить» и для необоснованно репрессированных в 20-80-х годах и позже реабилитированных граждан.

**Сергей КУРКАЧ.**

### АДКРЫЕЦЦА ГАНДЛЁВАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА ІРАНА

Да канца гэтага года ў Мінску будзе адкрыта гандлёвае прадстаўніцтва Ісламскай рэспублікі Іран.

Такое рашэнне прынята іранскім бокам па выніках прайшоўшых у Мінску беларуска-іранскіх перамоў. Як паведамілі ў пасольстве Ірана на Украіне і ў Беларусі, «станоўчыя вынікі візіту доктара Хабібі падштурхнулі нас да больш хуткіх дзеянняў».

Аднак планы іранцаў не абмяжоўваюцца толькі адкрыццём гандлёвага прадстаўніцтва. Яны хацелі б стварыць цэлы комплекс у сталіцы Беларусі, па вуліцы Петруся Броўкі: пасольства, гандлёвае прадстаўніцтва, невялікі гасцінічны блок, рэстаран з нацыянальнай кухняй, невялікі магазін... І ўсё гэта плануецца зрабіць да канца 1995 года.

Беларусь таксама мае намер адкрыць сваё гандлёвае прадстаўніцтва ў Тэгеране, і таксама сёлета. Праўда, па вядомых прычынах яно будзе больш сціплае.

**Уладзімір ГЛОД.**

**КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 26 июля 1995 г.**

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| БЕЛАРУСБАНК | 11480 | 11700 | 8000 | 8300 | 2.2 | 2.5 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11400 | 11700 | 8000 | 8300 | 2.25 | 2.6 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция) | 11450 | 11750 | 8200 | 8450 | 2.35 | 2.6 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11450* | 11700 | 8270* | 8450 | 2.2 | 2.6 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11500 | 11800 | 7900 | 8400 | 2.3 | 2.6 |
| ФК "ВЕРОНИКА" *** | 11500* | 11720* | 8200* | 8550* | 2.46* | 2.6* |
| ДУКАТ | 11500* | 11750 | 8100* | 8400 | 2.3* | 2.7 |
| ИНТЕК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Ф-л МИЛАВИЦА АКБ ДУКАТ | 11500 | 11750 | 8100 | 8300 | 2.2 | 2.7 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11500 | 11740 | 8100 | 8350 | 2.38 | 2.48 |
| ПРИОРБАНК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| СБЕРБАНК | 11450 | 11700 | 7900 | 8200 | 2.15 | 2.45 |
| ОЛИМП | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| ЭЛИТБАНК | 11400 | 11750 | 7800 | 8300 | 1.9 | 2.45 |
| Ф-л НЕМИГА АКБ ДУКАТ | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11400* | 11700* | 8000* | 8200* | 2.25* | 2.45* |

* Возможна операция за наличный и безналичный расчет
** Операция проводится только по безналичному расчету
В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.
Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Грецова".

| | | | |
|---|---|---|---|
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8303.25 | 2.55 |

### КОРОТКО

***

Как сообщили в Министерстве архитектуры и строительства, общая протяженность автодорожной сети Беларуси сегодня равна примерно 50-и тысячам километров. Из-за скудных финансовых средств в ближайшее время она вряд ли существенно увеличится.

По расчетам специалистов, проложить 1 км современной четырехполосной автодороги стоит сейчас 1 млрд. 250 млн. рублей. Поэтому, несмотря на лето, в дорожно-строительном комплексе страны установились «заморозки». Из-за отсутствия заказов и денег значительная часть наших строителей вместе с техникой трудится сегодня в России, приводя в порядок тамошние дороги.

***

**Не сакрэт, для некаторых прадпрыемстваў сёння існуе праблема з пошукам сродкаў для выплаты заработнай платы. У сувязі з гэтым Нацыянальны банк растлумачыў, што дзеючыя нарматыўныя акты не забараняюць выкарыстоўваць для выплаты зарплаты выручку ўласных магазінаў у выпадку, калі суб'ект гаспадарання не мае пратэрмінаванай запазычанасці па разліковых рахунках.**

**Ну і зразумела, такія дзеянні трэба ўзгадніць з банкам, які абслугоўвае.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# З ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ, ВАС, ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

**«ДЛЯ КОЖНАГА НАРОДА СВАБОДА І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА КАШТОЎНАСЦІ НАЙВЫШЭЙШЫЯ»**



**Заўтра на Беларусі свята — Дзень Незалежнасці.**

**Зараз ужо не верыцца, што ўсяго толькі чатыры гады таму Беларусь была Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, а фактычна адным з рэгіёнаў камуністычнай імперыі, якая амаль сем дзесяцігоддзяў пазначалася на карце размашыстай абрэвіятурай «СССР».**

**Што б там ні казалі пра нашу «ўрэзаную», «упаўшую з неба» незалежнасць — але чатыры гады таму сапраўды адбылася падзея гістарычнай важнасці. І яе ўжо не перакрэсліць. Як бы ні спрабавалі апалагеты вялікай дзяржаўнасці павярнуць ход падзей назад, гэта немагчыма. У свядомасць мільёнаў жыхароў гэтай зямлі глыбока запала шматпакутная, многа разоў абражаная, але неўміручая ідэя незалежнасці.**

**Жыве Беларусь!**

*Напярэдадні нацыянальнага свята мы звярнуліся да жыхароў сталіцы — як людзей знакамітых, так і выпадковых прахожых — з пытаннем:*

**— З ЯКІМІ ПАЧУЦЦЯМІ І ДУМКАМІ ВЫ СУСТРАКАЕЦЕ СЁЛЕТНІЯ ЎГОДКІ АБВЯШЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ?**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12–га склікання:**

— Для мяне Дзень Незалежнасці Беларусі — вялікае свята. І я рады, што ў гэтым годзе 27 ліпеня абвешчана непрацоўным днём.

Я думаю, што ў людзей ёсць магчымасць задумацца і асэнсаваць тое, што адбылося чатыры гады назад і як адбылося. Тады быў зроблены няпросты, але рашучы крок, і радуе, што парламент здолеў з'яднацца і здзейсніць справу выключнай важнасці — надаць статут канстытуцыйнага акта Дэкларацыі аб Незалежнасці Беларусі.

На вялікі жаль, апошнім часам зроблена шмат крокаў назад, але лічу, што можна адумацца: спыніць гэты «адкат» і паслядоўна ісці да незалежнасці, да Беларусі і да добрых адносін з усімі суседзямі.

**Ніл ГІЛЕВІЧ, народны паэт Беларусі:**

— З пачуццём горычы і вялікай трывогі. Горычы, бо за апошні год не развілі і не замацавалі нашу дзяржаўную незалежнасць, а, наадварот, панеслі пэўныя страты, асабліва ў выніку рэферэндуму. Для кожнага народа ў свеце свабода і незалежнасць — гэта каштоўнасці найвышэйшыя, радасць ні з чым не параўнаная. Народы дзесяцігоддзямі і стагоддзямі вядуць барацьбу за права самім распараджацца сваім жыццём, быць поўнымі гаспадарамі на сваёй зямлі. Нам, беларусам, сам лёс пайшоў насустрач, але не хапае ці сілы волі, ці звычайнай чалавечай годнасці, ці яшчэ чаго, што гатовы самі адмовіцца ад здабытага. У нас нават дазваляецца публічна іранізаваць над словамі суверэнітэт і незалежнасць, прычым нават у самых вышэйшых эшалонах улады. Куды ўжо горш!

І аднак жа я веру, што нацыянальнай трагедыі не здарыцца, і што свята незалежнасці будзе святкавацца на Беларусі ў вяках. Але для гэтага трэба вывесці масы людзей з бяспамяцтва, далучыць да сваёй гісторыі, да нацыянальнай свядомасці. Толькі гэтым шляхам мы здабудзем тое, пра што марылі нашы папярэднікі і пра што мараць лепшыя людзі зямлі нашай сёння.

**Генадзь АТАПІН, намеснік дырэктара Беларускага фонду падтрымкі прадпрымальніцтва:**

— Поўнай незалежнасці няма ні ў адным грамадстве свету. Але свет ідзе да XXI стагоддзя, ступень свабоды ў якім павінна быць значна большай, чым раней.

Аднак чыноўнікі ў Маскве, прызвычаіўшыся за апошнія 70 год да сваёй улады, не жадаюць аддаваць яе сваім былым рэгіёнам. Таму цяперашняе пашырэнне рынку ў бок Расіі можна вітаць, але толькі пры ўмове, што гэта аўтаматычна не пашкодзіць кантактам Беларусі з Захадам. На жаль, наконт апошняга існуюць вялікія сумненні.

Што ж датычыць сёлетніх угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі, настрой перад святам у мяне не вельмі добры. Бо сёння амаль усе беларускія вытворчыя прадпрыемствы вялікага, сярэдняга і малога бізнесу пакутуюць ад вялікай розніцы працэнтных ставак, што даюцца пад крэдыты. І калі ў самы бліжэйшы час стаўкі, што даюцца пад крэдыты ў беларускіх рублях і замежнай валюце, не стануць адносна роўнымі, прадпрыемствы, якія атрымалі пазыку ў нацыянальнай беларускай валюце, будуць мець вялікія цяжкасці.

*Заканчэнне на 2–й стар.*

ОФИЦИАЛЬНАЯ ХРОНИКА

Посольства Англии и Италии в Республике Беларусь справили новоселье по улице К.Маркса в Минске. На церемонии открытия посольств присутствовали заместитель министра иностранных дел Италии Э.Скаммакк и государственный министр иностранных дел и по делам Содружества Великобритании Н.Бонсор, члены дипломатического корпуса, аккредитованного в республике, представители общественности белорусской столицы.

Итальянское посольство, отмечая исторически сложившиеся связи Италии и Беларуси, установило копию мемориальной доски, выполненной скульптором В.Янушкевичем и посвященной Ф.Скорине. Этот мемориальный знак открыт недавно в городе Падуя, где учился белорусский просветитель.

**НА СНИМКАХ: во время открытия посольств; мемориальная доска, посвященная Ф.Скорине.**

**Текст и фото Евгения КОЗЮЛИ, БЕЛИНФОРМ.**






### СООБЩЕНИЕ МИНТЕПЛОСЕТЕЙ

Для подготовки тепловых сетей города Минска к работе в зимних условиях в соответствии с утвержденным Мингорисполкомом «Графиком отключения теплосетей для испытаний и ремонтов» Минскими тепловыми сетями в августе 1995 г. будет отключено горячее водоснабжение:

вдоль улиц Ангарская (ж. д. 1-15, 2-84), Енисейская, пос. МАЗ (Центральная, Седова, Мичурина, Трудовая, Шоссейная), Днепровская, Летняя, Охотская, Нестерова (ж. д. 2-8), Байкальская, Алтайская, Герасименко (ж. д. 1-45), пр.Партизанский (ж. д. 105-149) с 7 августа по 28 августа;

вдоль улиц В.Хоружей, Кульман, Щедрина, Гая, Осипенко, Шевченко, Каховская, Кропоткина, Червякова, Орловская, Беломорская (ж. д. 1-17, 2-10), Карастояновой, Нововиленская, Варвашени, Куйбышева, М.Богдановича (ж. д. 33-147, 6-108), Сурганова (ж. д. 21-61, 52-86), Пугачевская, Киселева, Восточная (ж. д. 37), Гало (ж. д. 6, 4), Беды (ж. д. 3-27, 24), Некрасова (ж. д. 17-35), Я.Коласа (ж. д. 1-35, 2-36), пр. Скорины (ж. д. 51-71) с 21 июля по 24 августа;

вдоль улиц Есенина, Космонавтов, Рафиева (ж. д. 81 — до конца, 72 — до конца), Слободская, пр. им. газеты «Известия» (ж. д. 100-124) с 31 июля по 24 августа;

вдоль улиц Сухаревская, Горецкого, Шаранговича, Лобанка (ж. д. 89-105) с 31 июля по 1 сентября;

вдоль улиц М.Богдановича (ж. д. 1-27), Я.Купалы (ж. д. 27), Старовиленская (ж. д. 2-16), пер. Коммунальный, 3 с 31 июля по 16 августа;

вдоль улиц Харьковская, Берута, Гусовского, Скриганова, Д.Сердича, Жудро, Притыцкого (ж. д. 2-54, 3-17), П.Глебки, Матусевича, Л.Украинки, Ольшевского, Я.Мавра, Волоха (ж. д. 45-59), К.Либкнехта (ж. д. 110-130), Лермонтова (ж. д. 45-49), Карпова (ж. д. 12-16), Бельского, Пономаренко, пр. Пушкина, пр. Машерова (ж. д. 1-53), Немига (ж. д. 2-26), Короля, Сухая, Коллекторная, Раковская, Перекопская, Романовская Слобода, Тимирязева, пер. Мебельный, Танковая, Заславская, Мельникайте, Панфилова, Кальварийская с 7 августа по 9 августа.

В период испытаний возможны повреждения теплопроводов. При обнаружении течи горячей воды и парения из земли, камер и колодцев, провалов грунта вокруг камер и колодцев, нарушения их целостности необходимо срочно сообщить диспетчеру Минских тепловых сетей по тел. 21-15-85, 21-15-86.

Информацию о конкретных сроках включения горячего водоснабжения можно получить в ЖЭС по месту жительства.

Уважаемые минчане и гости столицы! Минские тепловые сети приносят извинения за временные неудобства, связанные с перерывами в горячем водоснабжении.

О возможных изменениях вышеуказанных сроков отключения горячей воды у потребителей, а также об отключении горячего водоснабжения в сентябре будет сообщено дополнительно.

**Администрация Минтеплосетей.**

### САЮЗ СТВОРАНЫ. КУРАНЯТ-ДЭПУТАТАЎ БУДЗЕМ ЛІЧЫЦЬ ПА ВОСЕНІ

Падпісанне пагаднення аб стварэнні Сацыял-дэмакратычнага Саюза паміж Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой, Партыяй усебеларускага адзінства і згоды і Партыяй народнай згоды, якое адбылося ўчора ў хатцы-музеі першага з'езду РСДРП, пачалося з непрыемнага інцыдэнту. Невядомы прадстаўнік камуністычнай партыі стаў ля ўвахода ў будынак з плакатам у руках, на якім было напісана, што камуністы не дапусцяць здзеку над марксісцкай святыняй (мелася на ўвазе хатка) з боку «нацыяналістаў і капіталістаў». Потым, карыстаючыся вольным уваходам на мерапрыемства, верны ленінец зайшоў у залу, дзе ўжо сабраліся «віноўнікі» ўрачыстасці, журналісты і проста зацікаўленыя асобы, і зноў пачаў «качаць правы», нахабным тонам патрабуючы пакінуць будынак. Скончылася ўсё тым, што некалькі мужчын ўзялі абаронцу марксізму пад рукі і вывалаклі на вуліцу.

А ў астатнім усё прайшло як мае быць. Праўда, першапачаткова планавалася, што пагадненне аб стварэнні СДС падпіша таксама Партыя здаровага сэнсу. Аднак прадстаўнік ПЗС зачытаў заяву, прынятую на выканкаме партыі, у якой адзначаецца, што ва ўмовах існуючай небяспекі страты дзяржаўнасці толькі поўнае аб'яднанне дэмакратычных сілаў мае здаровы сэнс.

Пасля кароткай афіцыйнай часткі мерапрыемства лідэры партый-падпісантаў — Мікола Статкевіч (БСДГ), Леанід Сечка (ПНЗ) і Дзмітрый Булахаў (ПУАЗ) выступілі з невялічкімі прамовамі, у якіх падкрэслілі, што асноўнай задачай СДС з'яўляецца абарона сацыяльных правоў працоўнага люду і рэалізацыя сацыял-дэмакратычных ідэй у беларускім грамадстве. У якасці гасцей сваё слова сказалі таксама былы пасол Беларусі ў Польшчы Георгій Таразевіч, віцэ-прэзідэнт асацыяцыі «Дзелавая ініцыятыва» сп. Нісцюк, прадстаўніца жаночай партыі «Надзея» і член АДПБ сп. Карбалевіч. Усе яны віталі стварэнне СДС. Так, у прыватнасці, спадар Нісцюк гарантаваў падтрымку Саюза з боку беларускіх бізнесменаў і выказаў надзею, што ў бліжэйшым будучым «Дзелавая ініцыятыва» далучыцца да СДС.

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# З ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ, ВАС, ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады:**

— Асабіста ў мяне гэтае свята выклікае супярэчлівыя пачуцці. Найперш, — гэта пачуцці задавальнення і гонару, што наш народ нарэшце атрымаў шанц быць гаспадаром у сваім доме, што нашых хлопцаў ніколі больш не адправяць у чужыя горы ваяваць за чужыя інтарэсы, а нашых дзяцей ніколі не павядуць на Першамайскія дэманстрацыі пад чарнобыльскім попелам...

З другога боку, гэта і пачуццё трывогі. Таму што няўдалыя спробы рэформаў выклікаюць у людзей пачуццё настальгіі па мінулых, больш стабільных, часінах, і гэта пагражае асновам нашай яшчэ пакуль маладой дзяржаўнасці.

Я думаю, што дзеля таго, каб захаваць беларускую дзяржаўнасць, мы павінны прапанаваць нашаму народу альтэрнатывы, іншыя варыянты ўладкавання (у тым ліку і эканамічнага) ў нашым агульным беларускім доме. Гэту функцыю і спрабуе зараз выканаць Сацыял-дэмакратычны Саюз, які фарміруецца з партый сацыял-дэмакратычнай накіраванасці. Агульнымі намаганнямі мы павінны ўратаваць наш здабытак, да якога Беларусь ішла стагоддзямі — нашу незалежную Бацькаўшчыну.

**Надзея БАРАНАВА, студэнтка фізічнага факультэта БДУ:**

— Дзень Незалежнасці для мяне — адно з найдаражэйшых свят. Я вельмі рада, што мне пашчасціла на свае вочы ўбачыць працэс пераўтварэння Беларусі ў незалежную краіну. Але тое, што мы назіраем сёння, — гэта вiдавочнае адступленне. Я асабіста ні ў якім выпадку не збіраюся больш жыць у камуністычным запаведніку і таму буду бараніць незалежнасць сваёй краіны ўсімі даступнымі сродкамі.

Але, безумоўна, на шляху да цывілізаванага свету не абыходзіцца без пэўных хібаў. Узяць, да прыкладу, не заўсёды прадуманае распаўсюджванне платнай адукацыі. У нас атрымліваецца так, што, калі ў цябе ёсць грошы, дыплом аб вышэйшай адукацыі табе гарантаваны. Але чалавек у любым выпадку павінен даказаць, што акрамя тоўстага кашалька ў яго ёсць яшчэ і розум.

**Мікола КУПАВА, мастак:**

— Нягледзячы на самыя неспрыяльныя (нават драматычныя) варункі для нашай дзяржавы, я сустракаю чарговы Дзень Незалежнасці з аптымізмам. Гэта нашае свята, свята ўсіх тых, хто стаіць на пазіцыях захавання і ўмацавання Беларускай дзяржавы. 27 ліпеня 1990 г. была прынята Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі, і гэту падзею, без перабольшвання, можна назваць гістарычнай, эпахальнай. У гэты дзень былі закладзены падмуркі ў справу нашага адраджэння і ў аднаўленне дзяржаўнасці.

І хоць наступныя крокі кіраўніцтва Беларусі, на мой погляд, не вызначаліся мудрасцю і паслядоўнасцю, — Адраджэнне ў любым выпадку факт рэальны. Яго ўжо не спыніць. Яго можна замарудзіць, затрымаць, але спыніць зусім — ніколі. Я глыбока перакананы, што рана ці позна прыйдзе светлы дзень нашага Адраджэння, асвечаны бел-чырвона-белым сцягам і нашай тысячагадовай «Пагоняй».

Са святам вас, беларусы!

**Антаніна СВІШЧЫК, пенсіянерка:**

— Незалежнасць — гэта, можа, і няблага, але ж, далібог, што яна прынесла нам, простым людзям? Жыць становіцца ўсё горш і горш, адны толькі цацанкі-абяцанкі ўладных людзей, а пенсіянерам дык увогуле хоць ты ў пятлю лезь. Нам растлумачваюць, што такое благое жыццё ад развалу вялікай краіны — СССР, ад таго, што па жывому разрэзаны ўсе сувязі і адносіны. Можа, яно і так, але ж мне здаецца, што ў маленькім доме навесці парадак значна лягчэй. Што ж перашкаджае?..

А ўвогуле, вы мяне выбачайце, палітыкай я не цікаўлюся. Думкі ўсё больш аб кавалку хлеба надзённага. Так што і настрой, зразумела, не святочны. Папрацую гэтыя дні на дачы — спадзявання больш на свае рукі ды на невялічкі надзел зямелькі, якая мяне корміць.

**Канстанцін УСТЫНЧУК, дырэктар Мінскага мотавелазавода, дэпутат гарсавета:**

— Думкі сёння толькі аб адным — як наладзіць работу завода. Мы знаходзімся ў глыбокім крызісе — няма чаго прадаваць, няма адкуль узяць грошы. У крэдыт ніхто не дае. Нам сёлета спаўняецца 50 гадоў — тым больш крыўдна сустракаць юбілей на мяжы выжывання. Спадзяёмся на Бога і на саміх сябе. Хочацца верыць, што дажывём да таго часу, калі будзем святкаваць Дзень Незалежнасці ў квітнеючай краіне і без галаўнога болю за заўтрашні дзень.

**Вінцук ВЯЧОРКА, намеснік старшыні Сойма БНФ:**

— Падчас адной размовы са сваёй дванаццацігадовай дачкой нечакана высветліў, што для яе той свет, які яшчэ паспеў застаць я, вельмі дзіўны. Ёй бачыцца дзіўным той свет, у якім існавалі забароненыя кнігі, свет, у якім не было беларускіх школ, у якім чалавек не меў магчымасці паехаць за мяжу альбо не меў права больш працаваць, каб зарабіць больш грошай.

Такім чынам аказваецца, мы не паспелі данесці да наступнага пакалення ўсёй «прывабнасці» таго, з чаго за апошнія гады выраваліся самі. Але, з іншага боку, падрастае ўжо цэлае пакаленне, для якога каштоўнасці свабоды і незалежнасці сталі проста натуральныя, таму за гэтыя каштоўнасці яно будзе змагацца. І напярэдадні 27 ліпеня, дня, які — што б там ні казалі — увасабляе сабой частковую рэалізацыю ідэалаў свабоды 25 сакавіка 1918 года, я шкадую толькі аб тым, што беларусам, як заўсёды, не хапае часу, каб замацаваць сваю незалежнасць да такой ступені, калі б яна стала ўжо незваротнай.

**Святаслаў СТАНКЕВІЧ, студэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта:**

— Для таго каб адчуваць сябе свабодным, першай умовай з'яўляецца незалежнасць дзяржавы, у якой жывеш. У мяне ў 92-93 гадах было значна больш спадзяванняў на тое, што праз пару гадоў Беларусь стане сапраўды незалежнай. І неўладкаванасць нашага жыцця не ішла ні ў якое параўнанне з тым, дзеля чаго я згадзіўся б патрываць. Тое, што адбываецца апошнім часам, не дае ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. І ўсё ж я звязваю свае надзеі з вольнай, дэмакратычнай і незалежнай Бацькаўшчынай, на карысць якой і збіраюся працаваць.

Святочнае экспрэс-апытанне правялі Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, Сяргей ГРЫБ, Ігар АНДРЭЙЧАНКА, «ДВ».

# ЗОЛОТО И БАНКИ

Национальный банк Республики Беларусь предоставил специальные полномочия Сбербанку, Белагропромбанку на совершение исключительных операций с первыми отечественными юбилейными монетами из драгметаллов.

Однако после принятия такого решения вдруг выяснилось весьма существенное обстоятельство. Дело в том, что в Уставе Сберегательного банка Республики Беларусь не предусмотрено право банка совершать операции с драгметаллами, в число которых входят и операции с выпускаемыми в обращение золотыми и серебряными монетами. Для законности подобных действий требуется лицензия того же Нацбанка и разрешение Комитета по драгоценным металлам Минфина. В спешном порядке Кабинет Министров подписывает постановление о внесении необходимых изменений в Устав Сбербанка. Для справки: в настоящее время лицензии Нацбанка на право совершения операций с драгметаллами имеют 5 банков страны. С прошлого года Белбизнесбанк, Приорбанк и Белвнешэкономбанк работают с драгметаллами как с валютными ценностями без права вывоза их за пределы Беларуси. В отличие от этих банков, Сбербанку и Белагропромбанку разрешены операции только с монетарным золотом.

Сергей КУРКАЧ, РИД.

ЭКАНОМІКА І УЛАДА

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Міністэрствам па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі падведзены вынікі раздзяржаўлення і прыватызацыі ў Беларусі за першую палову бягучага года. Згодна са статыстыкай, да сярэдзіны ліпеня было прыватызавана толькі 28 аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці, агульны кошт дзяржаўнай маёмасці якіх склаў крыху больш за 340 мільярдаў рублёў. Большасць рэфарміраваных аб'ектаў (17) адносіцца да сектара прамысловай вытворчасці; па 3 аб'екты рэфарміраваны ў галіне будаўніцтва і гандлю, 1 — у галіне транспарту і сувязі, 4 адносяцца да іншых галін народнай гаспадаркі. Асноўным спосабам прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці было акцыяніраванне дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў — 26 з 28. Выкуп арандаванай маёмасці арэндным прадпрыемствам быў зроблены толькі на адным прадпрыемстве, яшчэ адно было прададзена па конкурсе. Большасць аб'ектаў рэфарміраванай уласнасці размешчана ў Мінску — 9, у Віцебскай і Гродзенскай абласцях — па 5. Палова раздзяржаўленай у першым паўгоддзі ўласнасці належыць продажу за імянныя прыватызацыйныя чэкі. Каля 35 працэнтаў ад другой паловы будзе прададзена за грошы, 56 працэнтаў застанецца ў кіраванні дзяржавы, астатняя частка як ільгота перададзена працоўным калектывам гэтых прадпрыемстваў.

На думку спецыялістаў Міндзяржмаёмасці, сённяшняе фактычнае прыпыненне працэсу «вялікай» прыватызацыі звязана з тым, што, нягледзячы на адабрэнне Кабінета Міністраў, Праграма раздзяржаўлення і прыватызацыі аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці на бягучы год да гэтага часу ўрадам не зацверджана, як не зацверджаны і спіс прадпрыемстваў, якія павінны быць рэфарміраваны. Таму пазіцыю чакання занялі адміністрацыя і працоўныя калектывы саміх прадпрыемстваў.

Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.

НОВОСТИ ПРИБАЛТИКИ

## «ДЭПРЭСІЯ-95» У ЛІТВЕ НЕ ВЫПАДКОВА

Па ініцыятыве літоўскіх урачоў і Сусветнай асацыяцыі псіхіятраў у Каўнасе прайшоў міжнародны сімпозіум «Дэпрэсія-95».

Літва для такога мерапрыемствы выбрана не выпадкова. На 100 тысяч насельніцтва штогод у краіне жыццё самагубствам канчае 47 чалавек. У той жа час насцярожваюць даныя сярод непаўналетніх — толькі ў мінулым годзе каля 1000 самагубстваў было менавіта ў гэтай узроставай катэгорыі. Па гэтых сумных паказчыках рэспубліка займае першае месца ў свеце.

Вучоныя Літвы, вядомыя псіхіятры са Швейцарыі, Германіі, Англіі і ЗША выступілі на сімпозіўме з дакладамі, дзе аналізуюцца сацыяльныя і медыцынскія аспекты барацьбы з дэпрэсіямі, прамым вынікам якіх, на іх думку, і з'яўляецца такая вялікая колькасць самагубстваў у грамадстве.

## КЛАЙПЕДА ПРЫВАБЛІВАЕ ІНВЕСТАРАЎ

Інстытут геаграфіі Літвы правеў навуковае даследаванне працэсаў інвестыцыі ў геаграфічным аспекце. Гэта першая капітальная праца літоўскіх вучоных у сферы геаграфіі фінансаў. Цяпер даная галіна даследаванняў з'яўляецца новай і лічыцца адной з самых перспектыўных.

Прывабнасць інвестыцыі ацэньвалася па многіх агульнапрынятых параметрах, сярод якіх галоўнымі былі: палітычная стабільнасць, манетарная палітыка, прававая база, банкаўская дзейнасць, магчымасць перамяшчэння капіталаў, крымінагенная сітуацыя, гасцінічны сэрвіс, медыцынскае абслугоўванне, транспарт, сістэмы сувязі, велічыня і якасць мясцовага рынку, экалагічная сітуацыя і прыродаахоўныя патрабаванні.

Больш за ўсе балаў па ўсіх параметрах набрала Клайпеда — 6,7. На другім месцы Вільнюс — 6,5, на трэцім Каўнас — 6,0 бала. На апошнім месцы апынуўся Паневежыс — 3 балы.

Работнікі Інстытута геаграфіі Літвы па сваей методыцы ацанілі таксама Рыгу, якая набрала 7,2 бала, і Талін — 7,4 бала.

Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛІНФАРМ.

## УРОВЕНЬ ИНФЛЯЦИИ В ЭСТОНИИ И ЛИТВЕ

Индекс потребительских цен в Эстонии вырос в июне по сравнению с маем на 2,3%. При этом продовольственные товары подешевели на 0,5%, промышленные подорожали на 0,7%, услуги подорожали на 5,2%. В январе потребительские цены выросли на 3,5%, в феврале — на 2,9%, в марте — на 2,4%, в апреле — на 1%, в мае — на 2,6%. В Литве уровень июньской инфляции составил 1%, что является для республики самым низким показателем в 1995 году. В январе инфляция была 5,7%, в феврале — 3,9%, в марте и апреле — по 1,4%, в мае — 2,2%. За первые шесть месяцев инфляция в Литве составила 16,7%, а за тот же период прошлого года — 23%.

«ЭКСПРЕСС-ХРОНИКА» — РИД.

## В СТРАНЕ СТАНОВИТСЯ МЕНЬШЕ ЖИТЕЛЕЙ

На начало июня в Литве проживало 3 млн. 715 тыс. человек, что на 2194 человека меньше, чем в начале года, — сообщает Департамент статистики.

За пять месяцев этого года умерло на 1605 человек больше, чем родилось. Только в мае этого года число жителей по причине смертности уменьшилось на 300. В мае прошлого года натуральный прирост населения равнялся 187.

## 12 ТЫСЯЧ КРОН ЗА ГОД УЧЕБЫ

За год учебы в эстонском высшем учебном заведении иностранный студент должен отныне платить 12 тысяч крон (чуть больше тысячи долларов по нынешнему курсу) — такую плату ввело на днях правительство Эстонии.

Согласно решению правительства, каждый вуз может увеличить или уменьшить эту сумму в пределах 25 процентов. Министр культуры и образования Пеэтер Крейцберг объяснил на состоявшейся пресс-конференции, что вузам оставлено право дифференцировать плату, так как, например, обучение врача обходится гораздо дороже, чем обучение филолога.

От платы за учебу освобождены иностранцы-магистранты, которые пишут диссертации об эстонской культуре или литературе.

Кроме финнов, в Тартуский университет в этом году поступали абитуриенты из Дании, Латвии, Нигерии, Узбекистана, США, Швеции, Великобритании и других стран.

## ПОЙМАН С БУТЫЛКОЙ — ЗНАЧИТ НАКАЗАН

Эстонская полиция конфисковала за первые шесть месяцев этого года 200 тысяч литров алкоголя на общую сумму около 5 миллионов крон.

Сотрудник экономической полиции Ян Валдна сообщил BNS, что на самом деле полиция задержала в десять раз больше контрабандного алкоголя, но большую часть задержанного пришлось вернуть владельцам. «Водку приходится возвращать и тогда, когда документы приводят в порядок, и тогда, когда никто не осмеливается взять на себя ответственность и конфисковать водку», — объяснил Валдна.

Одна из крупнейших партий алкоголя была конфискована несколько месяцев назад, когда из Петербурга в Эстонию пришла партия «пищевой эссенции». В бутылках с эссенцией оказался раствор спирта, который по концентрации был крепче водки.

По данным газеты «Eesti Ekspress», крупнейшая в этом году партия контрабандной водки была конфискована 9 июня на шоссе Петербург — Таллинн.

Газета сообщила, что общая стоимость груза водки «Россия» составляла более 1 миллиона крон.

По словам Валдна, суды назначают контрабандистам, возящим алкоголь, небольшие штрафы. «Когда нам удается конфисковать водку, то это уже большое наказание, поэтому и назначаются маленькие штрафы», — объяснил представитель экономической полиции.

BNS — РИД.

ГАЗЕТА ВЫСТУПИЛА, НАМ ОТВЕТИЛИ

# «КТО ВИНОВЕН В ЭТОМ»?

Более года назад на трамвайной остановке «Дворец детей и молодежи» появились люди с техникой. В одночасье они снесли навес, который укрывал людей от непогоды. Отволокли его далеко в сторону... А восстановить забыли и по сей день. Сейчас рядом идет строительство автостоянки, причем в сотнях метров от Комсомольского озера и дворца, в экологически чистой зоне. Протесты жильцов близлежащих домов остаются без внимания. Это — один из негативных фактов, высветленных фоторепортажем «Кто виновен в этом?», опубликованном 6 июня в нашей газете.

Второй снимок был сделан на одной из остановок по проспекту Машерова. Ночью неизвестными варварами разбито около десятка остеклений импортных навесов.

— Возможно, в Центральном райисполкоме ответят, кто в этом повинен? — спрашивалось в фоторепортаже.

Заместитель председателя Центрального исполкома А.Я.Кунцевич ответил, что при реконструкции улицы Нововиленской навес на остановке трамвая «Дворец молодежи» при движении в сторону ул.Даумана был сильно поврежден и восстановлению не подлежал. Заменить его на новый из-за нехватки средств в бюджете района не представлялось возможным.

Сейчас в связи с заменой навесов на остановочных пунктах проспекта Машерова на новые появилась возможность установить демонтированные оттуда старые навесы на этом остановочном пункте в обоих направлениях. Работы завершены 30 июня 1995 года.

По вопросу варварского отношения к вновь установленным навесам по проспекту Машерова прокуратурой Центрального района возбуждено уголовное дело. Остекление навесов восстановлено.

Строительство автостоянки по ул.Нововиленской согласовано со всеми необходимыми службами, в том числе и с городским комитетом по экологии. Там строятся специальные очистные сооружения, которые предотвратят утечку нефтепродуктов с территории стоянки. По окончании ее строительства в некоторой степени решится проблема уменьшения количества автотранспорта, стоящего во дворах близлежащих домов, а следовательно — и уменьшения там загазованности.

БУДНИ МИЛИЦИИ




Каждый выходной нынешнего теплого ласкового лета отправляются в места массового отдыха минчан патрули столичной милиции. Их задача — обеспечить спокойный отдых жителей Минска, стать на пути любого нарушения законов.

**НА СНИМКЕ: к очередному «рабочему» воскресенью готовятся сотрудники Советского РОВД (слева направо) старшина Александр Кирик, старшина Анатолий Пашик и лейтенант Вадим Малькевич.**

ФОТО Юрия ЗАХАРОВА.

ЭТО АКТУАЛЬНО

# МОЛОДЕЖЬ И РЫНОК ТРУДА

**Тамара ИСАКОВА, главный специалист отдела рынка труда Минского городского центра занятости населения.**

## ПРЕДЛОЖЕНИЕ БЕЗ СПРОСА

**По-прежнему ситуация на рынке труда города Минска остается сложной. Большое беспокойство у специалистов службы занятости вызывает тот факт, что столичная безработица имеет стойкую тенденцию к омоложению.**

Первые места по «производству» безработных с высшим образованием занимают самые крупные вузы нашей республики. Лидируют в этом списке Белорусская государственная политехническая академия, Белорусский государственный университет информатики и радиоэлектроники, Белгосуниверситет, Белорусский государственный экономический университет, Белорусский государственный технологический университет. Среди средних специальных учебных заведений больше всего зарегистрировано безработных среди выпускников Минского энергетического техникума, Минского техникума легкой промышленности, Минского технологического техникума, Минского торгового техникума.

А вот список ПТУ, которые пополняют своими выпускниками ряды безработных: ПТУ № 9 машиностроения, ПТУ № 11 текстильщиков, ПТУ № 12 бытового обслуживания населения, ПТУ № 38 перерабатывающей промышленности, ПТУ № 43 легкой промышленности, ПТУ № 221 кулинарии.

Проблемы безработицы и занятости граждан не могли не отразиться на ориентации выпускников учебных заведений при переходе к трудовой деятельности. Социологический опрос, проведенный специалистами МГЦЗН, показал, что 36,7 процента выпускников вузов считают необходимым персональное распределение после окончания учебного заведения. При этом 5,9 процента абсолютно уверены, что получат направление на работу по специальности.

Время вносит свои коррективы в мышление молодых граждан. Почти половина выпускников видит свою будущую работу на предприятиях новых экономических структур и только 27 процентов ориентированы на работу в государственном секторе народного хозяйства.

Однако сейчас рынок рабочих мест формирует главным образом государственный сектор экономики. Свыше 80 процентов общей потребности в рабочей силе представлено заявками государственных предприятий. А экономический кризис в первую очередь сказывается наиболее остро именно в данном секторе экономики. Сокращение рабочих мест на машиностроительных предприятиях города, отсутствие сырья и, как следствие, спад производства на предприятиях легкой и перерабатывающей промышленности значительно снизили шансы трудоустроиться выпускникам соответствующих профильных учебных заведений.

Среди зарегистрированных безработных выпускников вузов выпускники машиностроительных профессий составили 274 человека или 60,5 процента.

Среди зарегистрированных безработных выпускников средних специальных учебных заведений больше всех выпускников техникума торговли, техникума-предприятия легкой промышленности, технологического техникума, энергетического техникума. Среди зарегистрированных безработных выпускников технических училищ — выпускники ПТУ № 38 перерабатывающей промышленности ПТУ № 21 кулинарии, ПТУ № 11 текстильщиков, ПТУ № 12 бытового обслуживания.

Ситуация, в которой находятся сегодня выпускники учебных заведений, не дает оснований для оптимизма. Именно поэтому выпускников последних курсов надо знакомить с проблемами рынка труда и настраивать их на активные самостоятельные действия.

В то время как для многих работающих специалистов боязнь остаться без работы ведет к наметившейся тенденции профессиональной деградации, увеличению терпимости к неблагоприятным условиям труда, молодые специалисты, обладая в целом высокой общеобразовательной и профессиональной подготовкой, предъявляют повышенные требования к характеру, содержанию и условиям труда.

Постоянно сохраняющийся спрос по массовым профессиям (где монотонный труд, устаревшие техника и технология, низкая заработная плата, отсутствие жилищно-бытовых гарантий) подтверждает тот факт, что характер и условия труда для молодого специалиста — наиболее значимый фактор.

**Что можно предложить в этой ситуации? Считаю, что для сохранения у выпускников интереса и желания трудиться необходимо немедленно приводить в соответствие с потребностью рынка труда всю систему профессиональной подготовки кадров, разрабатывать программы создания дополнительных рабочих мест для молодежи на уровне правительственных структур, четко сознавая, что перспектива занятости молодежи — стратегическая задача. Безработица среди этой группы населения ведет к моральным потерям как у самой молодежи, так и в обществе.**

МНЕНИЕ

# БЫЛА ЖИЛОЙ — ПОЛЕЗНОЙ, СТАНЕТ ОБЩЕЙ — ЛИШНЕЙ...

**Яков ЛИФАНОВ, член Союза журналистов.**

В последнее время городское население очень взбудоражено тем, что правительство республики резко повысило оплату жилья, коммунальных и других услуг. По словам Председателя Кабинета Министров республики М.Н.Чигиря, в третьем квартале предстоит взимать с жильцов 60 процентов, а с нового года — 80 процентов квартплаты.

Недавно в печати и по Белорусскому радио выступили ответственные сотрудники Министерства жилищно-коммунального хозяйства Республики Беларусь и заявили, что квартплата будет взиматься отныне уже не за полезную (или жилую, как стали ее называть в последнее время) площадь, как было до сих пор, а за всю общую, то есть, кроме комнат, сюда войдут и кухня, и коридор, и ванная, и туалет, и балкон (особенно лоджия)... Очень может быть, что наши минжилкоммунхозники пойдут и дальше, а именно — включат сюда на каждого квартиросъемщика и лестничную площадку, и подъезд перед входом в общую дверь, и проезжую часть для транспорта перед тем же подъездом, и наружную территорию, под которой лежат водопроводные и канализационные трубы, а если вы своими руками сделали грядки с цветами под вашими окнами, то и они войдут в этот платный перечень... Горькая это ирония, но, увы, неизбежная...

Чем обосновывают упомянутые выше товарищи-господа намерение принять такое постановление? А тем, видите ли, что постановление, по которому все наше население оплачивало только полезную (жилую) площадь, было принято еще в 1936 году, когда имелись у государства лишь дома-«коммуналки» с общими кухнями и минимальными удобствами, а сегодня, дескать, совершенно иные условия жилья. Это во-первых. А во-вторых, сегодня во всех западных странах берут плату за общую, а не за полезную (жилую) площадь, — так чем же, мол, мы хуже их?..

Что тут можно ответить? Во-первых, тот факт, что так постановили не сегодня, а еще в 1936 году, вовсе не значит, что это было необоснованно и никуда не годно. С таким же успехом можно, например, охаивать Октябрьскую революцию уже только за то, что она свершилась аж еще в 1917 году, когда у руля Советской власти были Ленин, Троцкий, Сталин, Бухарин, Рыков, Киров, Молотов и др., в то время как сегодня в России уже совсем другие вожди — Ельцин, Черномырдин, Лужков, Собчак и др., а в Беларуси — Лукашенко, Чигирь, Мясникович, Линг и др.

Но разве это серьезный довод? Ведь Советское правительство в 1936 году ввело оплату госжилья только за полезную, а не за всю общую площадь с благой целью — обеспечить нашему населению нормальные условия жизни, которые были бы всем по карману, а не только кучке изворотливых дельцов (а такие тогда еще были). Все остальные расходы на жилье государство взяло на себя. Так разве могло и может сегодня быть что-то более человечное и благородное?

А что касается того, что «во-вторых», то мы и сегодня не можем и не должны ориентироваться на капиталистическую систему разбогатевших передовых западных стран.

Постановление о взимании платы не за полезную (жилую), а за всю общую площадь — это еще один недобросовестный и хитроумный ход конем, а точнее говоря, плохо замаскированная палка о двух концах; этой палкой предусматривается еще один жестокий удар по нищим карманам наших квартиросъемщиков. Что я имею в виду? А вот что: ведь все наши сегодняшние жильцы получали у государства квартиры из расчета только полезной, а не общей жилой площади, и эта полезная площадь у подавляющего числа квартиросъемщиков соответствует действующей до сих пор норме — 12 кв. м на человека.

А теперь представьте себе, что же получится, если площадь станет уже не полезной, а общей? Это значит, что у большинства нашего населения окажется якобы лишняя жилплощадь, за которую государство (оно это и не скрывает уже) станет взыскивать огромную дополнительную оплату. Многие тысячи сегодняшних квартиросъемщиков окажутся поистине без вины виноватыми. Да и многие ли из них найдут, чем оплачивать эти невероятные суммы за жилье? Еще в 1936 году наше государство вовсе не в легких условиях нашло, однако, возможности, чтобы поддержать квартиросъемщиков, а сегодняшние государственные деятели, прикрываясь до сих пор малореальной болтовней о якобы спасительной для всех нас «рыночной экономике», хотят построить эту экономику за счет и без того обедневших, а то и вовсе нищих трудящихся.

Если бы еще введение оплаты за общую площадь касалось лишь тех, кто впервые, то есть сегодня или завтра, получит государственное жилье (да и то лишь после предварительной им компенсации или пенсии), и совершенно не коснется тех, кто живет в госквартирах уже не один год, так это еще куда ни шло. Но ведь правительственное постановление затронет всех без исключения жильцов.

Характерная для данного случая деталь: правительство намерено, как я уже сказал, брать оплату уже не за полезную (жилую), а за общую площадь в расчете на то, что плата в госказну резко увеличится за счет жильцов. При этом ссылаются на заграничный опыт, но не на тот, который им невыгоден. Например, почему наши коммунальные деятели молчат о том, что в западных странах (например, в Германии) нормой жилья являются никакие не метры, а одна комната на человека, независимо от размера ее? Уж если говорить правду, то до конца.

Мыслимо ли подобное в наше и без того трудное время? И не пора ли правительству Беларуси вспомнить о народной поговорке насчет той же палки, у которой, как известно, два конца?..

